**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер,
выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдаецца са снежня 1994 года** 2 (510) 14 студзеня 2010 года Кошт **свабодны**



Развітанне з ксяндзом Юзасам Булькам у мосарскім касцёле св. Ганны.

*Працяг тэмы на стар. 2.*

*Фота Віктара Вярінскага*





**Філіял «Падсвільскі вінзавод» дзяржаўнага прадпрыемства «Полацкі вінаробчы завод»**

**АБВЯШЧАЕ ТЭНДЭР**

на вакантныя пасады :

1) намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях (патрабаванне – вышэйшая адукацыя);
2) мэнэджэр аддзела збыту (патрабаванне – вышэйшая адукацыя, досвед працы ў аптовым гандлі).

Тэрмін прадстаўлення прапаноў і дакументаў – 10 дзён з дня апублікавання абвесткі.

**Даведкі па тэлефоне: 3-58-34 (аддзел кадраў) 3-51-84 (прыёмная).**

УНП 300986731

# Ïàì¸ð êñ¸íäç Þîçàñ Áóëüêà



■Марат Гарывы, БелаПАН

**9 студзеня ў Мінску на 85-м годзе жыцця памёр пробашч касцёла святой Ганны ў Мосары Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці Юозас Булька.**

11 студзеня 2010 г. у Мосары (Віцебская дыяцэзія, Глыбоцкі дэканат) адбылося пахаванне вечнай памяці кс. прэлата Юозаса Булькі. Святар на працягу многіх гадоў працаваў у мясцовай парафіі Святой Ганны. Сёння ў сценах мосарскай святыні з'ядналіся ў гарачай малітве за душу памерлага пастыра беларускія іерархі, каля 70 святароў з усіх дыяцэзій і, безумоўна, шматлікія вернікі.

Смерць гэтага ахвярнага святара стала сапраўднаю стратаю для Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, а перш за ўсё для вернікаў Мосара і наваколля. Тужліваю песняю разышлася гэтая вестка па ўсёй Беларусі і за яе межамі.

Жалобныя набажэнствы ўзначаліў кардынал Казімір Свёнтэк, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі на пенсіі, Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі.

Гамілію прамовіў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Больш за 25 гадоў ксёндз Булька служыў у прыходзе Мосар Віцебскай дыяцэзіі.

Ён стаў шырока вядомы ў Беларусі і за яе межамі як прапагандыст здаровага ладу жыцця. Дзякуючы намаганням ксяндза прэлата былі адноўлены і пабудаваны 8 касцёлаў. Адбудоўваючы храмы, ён нястомна клапаціўся аб пакліканнях да святарства, каб былі тыя, хто мог бы ў іх працаваць. Дзякуючы рупліввасці кс. Булькі сёння на нашай зямлі святарскае служэнне нясуць 17 святароў, яго вучняў.

Па ініцыятыве ксяндза ў Мосары быў створаны антыалкагольны музей і Алея цвярознікаў, якую заклалі прадстаўнікі клубаў ананімных алкаголікаў з Беларусі, Латвіі і Літвы. Дзякуючы святару, многія жыхары Мосара і навакольных вёсак перасталі злоўжываць алкаголем.

У чэрвені 2009 Юозас Булька звярнуўся да ўладаў з просьбай забараніць продаж алкаголю ў Мосары. Ён таксама заявіў, што перад сваім сыходам на пенсію восенню 2009 года мае намер абвясціць Мосар зонай цвярозасці. Пасля выхаду на пенсію, ксёндз меў намер пераехаць у дом для састарэлых, аднак затым перадумаў. «Парафіяне мяне не выганяюць і не адпускаюць з касцёла, сказаў Булька. Я вырашыў застацца і дапамагаць новаму пробашчу ксяндзу Уладзіміру Шынковічу, які пакуль служыць у вёсцы Ідолта Мёрскага раёна Віцебскай вобласці».

Юозас Булька многае зрабіў для добраўпарадкавання Мосара. Па яго ініцыятыве ў вёсцы створаны Крыжовы шлях, стадыён, страусіная ферма, дэндрапарк з крыніцамі, фантанамі і скульптурамі, перад касцёлам св. Ганны ўзведзены помнік Яну Паўлу II.

У 2005 годзе Юозас Булька стаў першым беларускім ксяндзом, удастоеным лукашэнкаўскай прэміі «За духоўнае адраджэнне», а ў 2006 годзе ўказам Прэзідэнта быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за падзвіжніцкую дзейнасць па ўмацаванні духоўных каштоўнасцяў і прапагандзе здаровага ладу жыцця.

У той жа час апошнія гады ягонага жыцця былі азмрочаны прывідамі з мінулага.

У кастрычніку 2008 года пракуратура Літвы выдала ордэр на арышт Юозаса Булькі і абвясціла яго ў вышук па абвінавачванні ў генацыдзе.

Па версіі літоўскіх пракурораў, у пачатку 1950-х гадоў Булька супрацоўнічаў з камуністычнымі ўладамі, дапамагаючы ім высочваць і забіваць партызан, якія ваявалі супраць савецкай улады.

Ксёндз Булька рэзгаваў на звінавачванні ўхілісга і адмовіўся з'яўляцца ў Літву на суд. «Мне не могуць прабачыць, што я літовец жыву ў Беларусі, служу тут Богу і ствараю ў гэтай краіне такую прыгажосць, а таксама з малых гадоў вяду актыўную барацьбу з алкагалізмам», - сказаў Булька.

«Калі я вінаваты, то каюся», - падкрэсліў святар.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Êàçêà ïàñÿðîä ëåñó

■Кастусь Александровіч

**Напрыканцы мінулага года шэраг прадпрыемстваў і арганізацый Пастаўскага раёна адзначылі свае 70-гадовыя юбілеі. А вось размешчаны паблізу райцэнтра дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр "Ветразь" дзейнічае толькі шосты год, але добра вядомы дзецям з усёй Віцебшчыны ва ўзросце ад 6 да 14 гадоў.**

Калісьці тут у лясным масіве размяшчалася ракетная дывізія, пасля яе вываду ў Расію пачала арганізоўвацца папраўчая калонія. Аднак мясцовае кіраўніцтва дабілася ад урада рашэння аб стварэнні дзіцячага санаторыя, на яго будаўніцтва і рэканструкцыю дзяржава затраціла амаль 30 млрд. рублёў. Доўга, цэлых 10 гадоў працягваліся работы, пакуль пасярод лесу не паўстаў сапраўдны дзіцячы гарадок сярод лесу з трыма жылымі карпусамі на 250 месцаў. Ва ўсе поры года дзяцей тут на працягу 24 дзён аздараўляюць моладзь, лечаць найперш хваробы лёгкіх і нырак. Для бацькоў дзетак пуцёўкі сюды выдзяляюцца ў паліклініках вобласці бясплатна. Акрамя выдатнага лячэбнага корпуса з сучасным медабсталяваннем дзейнічаюць школа, сталовая, цэнтр адпачынку і нядаўна здадзены закрыты спартыўны манеж. Паколькі ёсць выдатная база, то гэты цэнтр можа павялічыцца ў будучым да 400 месцаў для дзяцей у адзін заезд.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Íîâàå àáë³÷÷à ðàéöýíòðà

■Станіслаў Раманчук

**Яшчэ летась па выніках нацыянальнага конкурсу-агляду на лепшы санітарны стан і добраўпарадкаванне сярод пераможцаў у сваёй групе малых гарадоў з насельніцтвам да 10 тысяч чалавек, аказаліся Докшыцы.**

Намаганні яго жыхароў па стварэнню сапраўднай прыгажосці ў гэтым райцэнтры на паўднёвым захадзе вобласці былі адзначаны важкай грашовай прэміяй з рэспубліканскага бюджэту. У мінулым годзе таксама істотна папрыгажэў другі па велічыні населены пункт раёна гарпасёлак Бягомль. Але ж найбольш добрых змен па-ранейшаму ў цэнтры Бярэзінскага краю. Да прайшоўшых Калядных свят у Докшыцах пасля рэканструкцыі адкрылі свой першы супермаркет "Родны кут". Сучасныя гандлёвыя камп'ютэрызаваныя плошчы з відэаназіраннем і вялізным выбарам тавараў падвоіліся і дасягнулі 450 кв. метраў. Немалаважна для пакупнікоў, што побач з гандлёвым цэнтрам абсталявалі адразу дзве аўтастаянкі. Перад Новым годам тут яшчэ здалі ў эксплуатацыю другі па ліку шматкватэрны жылы дом. Дарэчы, акрамя Докшыц такіх двайных буйных наваселляў за год дачакаліся на Віцебшчыне толькі жыхары суседніх Глыбокага, Пастаў, Лепеля і Верхнядзвінска.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Ãàñöÿì òîëüê³ ðàäû

**Дзякуючы сваім прыродным краявідам і багаццю азёр Браслаўскі раён ва ўсе поры года прыцягвае шматлікіх турыстаў. І не выпадкова ў азёрным краі зарэгістраваны і дзейнічаюць ужо 45 агратурыстычных гаспадарак, чым могуць пахваліцца рэдкія рэгіёны краіны.**

■Чэслаў Якубовіч

Лепшыя 15 уладальнікаў такіх аграсядзіб прадстаўлялі Браслаўшчыну на прайшоўшай спецыялізаванай міжнароднай турыстычнай выставе "VIVATUR-2009" у сталіцы Літвы. Не пакінулі без увагі ў раёне і выдатны паркавы ансамбль "Відзы-Лаўчынскія", які ачысцілі і падрыхтавалі да прыёму адпачываючых. Днямі дэлегацыя Браслаўскага раёна спецыяльна з'ездзіла на другі канец краіны ў горад Мазыр, дзе на Палессі многае зроблена ў сферы развіцця турызму і актыўнага адпачынку на ўлонні прыроды, арганізацыі дзейнасці музеяў і дэкаратыўна-мастацкага афармлення населеных пунктаў. Вопыт мазыран неабходна шырока ўкараняць у гэтым кутку Прыдзвіння, як курортнай зоны нацыянальнага значэння. У раёне ўжо падрыхтавана комплексная адпаведная праграма развіцця турыстычнага комплексу, капітальна адрамантаваны спорткомплекс мясцовай ДЮСШ.

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5.ru

| | чацвер 14.01.10 | | | | пятн.15.01.10 | | | суб. 16.01.10 | | нядз.17.01.10 | | пн 18.01. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | * | * | * | * | | * * | * * | * * | * | * - | - - | - - |
| Тэмпература, °C | -9 | -8 | -7 | -8 | -8 | -7 | -5 | -7 | -6 | -10 | -12 | -14 | -15 |
| Ціск, мм | 753 | 754 | 755 | 756 | 757 | 757 | 759 | 764 | 767 | 767 | 764 | 763 | 761 |
| Вільготнасць, % | 85 | 88 | 78 | 84 | 85 | 88 | 81 | 82 | 81 | 85 | 78 | - | - |
| Вецер м/сек | С-З 1 | С 1 | В 2 | С 1 | С-З 2 | С 2 | С-В 1 | С-З 2 | В 2 | Ю-В 2 | Ю-В 4 | Ю-В 2 | Ю-В 4 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Разавай рэзкай дэвальвацыі беларускага рубля, як летась, на працягу 2010 года больш не будзе, запэўнілі ў Нацбанку Беларусі. Аднак ягоны курс да кошыка замежных валют пад уздзеяннем розных фактараў можа вагацца сёлета ў межах 10 %. Тым часам, сукупны знешні доўг краіны ўжо перавысіў 20 млрд. USD і летась павялічыўся больш чым на 4 мільярды. У студзені плануецца прывіць супраць грыпу A/H1N1 500 тысяч чалавек насельніцтва.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Данія.*** Практычна безвынікова завяршыўся ў Капенгагене саміт 193 краін свету па змяненню клімата, Захад быў гатовы выдзеліць бедным краінам толькі 100 млрд. USD.

***Францыя.*** Дэпутаты Еўрапарламента прынялі рэзалюцыю па Беларусі, з-за адсутнасці прагрэсу ў галіне правоў і свабод парламент РБ не будзе прадстаўлены ў Еўропе.

***Сербія.*** Для жыхароў краіны і суседніх Македоніі і Чарнагорыі ЕС увёў безвізавы рэжым уезду ва ўсе дзяржавы Шэнгенскай зоны, больш 80 % сербаў за ўступленне ў Еўрасаюз.

***Расія.*** Напрыканцы года беспрацоўе ў РФ дасягнула 8,1 % і вырасла на 0,4 %, аднак у 2009 годзе расіянам удалося давесці сярэднюю зарплату да 19,2 тыс. рублёў ( да 600 USD).

***Партугалія.*** Краіна засталася адзінай у Еўропе, якую ў канцы года не засыпала снегам, не накрыла марозамі і не выклікала як шмат дзе транспартныя праблемы, гібель людзей.

***Кувейт.*** Пачаў дзейнічаць дагавор аб валютным саюзе арабскіх дзяржаў зоны Персідскага заліва, пачалося стварэнне адзінага Цэнтрабанка гэтай новай міжнароднай арганізацыі.

***Філіпіны.*** За год у краіне забілі найбольш у свеце адразу 30 журналістаў, на планеце летась загінулі 68 работнікаў СМІ, што на 60 % болей, чым было ў 2008 годзе.

***Германія.*** Нямецкія інжынеры стварылі самы хуткі ў свеце серыйны аўтамабіль "Porsche GT9-R" з рухавіком магутнасцю 1120 конскіх сіл, здольны развіваць хуткасць да 414 км/г.

***Мексіка.*** Больш 200 тысяч гледачоў пабывалі ў Мехіка на бясплатным дабрачынным калядным канцэрце сусветна вядомага спевака Пласіда Damінго, тут пачалася яго кар'ера.

***ЗША.*** Даследванні вучоных універсітэта Браўна штата Род-Айленд пацвердзілі, што амерыканскія віскі горшыя за гарэлку, выклікаюць больш моцны пахмельны сіндром.

***Італія.*** Фігурка "раненага Берлусконі" пабіла ўсе рэкорды калядных распрадаж, таксама добра разыходзілася ў сувенірных магазінах і статуэтка ягонай былой любоўніцы.

***Англія.*** У краіне ўпершыню за апошнія 100 гадоў пачалі вытворчасць высокаякасных віскі, хоць сусветным лідэрам па іх вырабу некалькі стагоддзяў была суседняя Ірландыя.

***Аўстралія.*** Новы рэкорд паставіла 45-гадовая немка Фрэя Хоффмайстэр, якая адна на лодцы праплыла на вёслах вакол кантынента 13 тысяч км за 332 дні падарожжа па вадзе.

***Нарвегія.*** Уцягнутыя ў культурнае жыццё мужчыны, даказалі вучоныя Нарвежскага інстытута навукі і тэхналогій, шчаслівейшыя астатніх і меней пакутуюць ад дэпрэсій.

***Іспанія.*** Упершыню ў свеце ФК "Барселона" за год выйграў усе 6 топ-турніраў: чэмпіянат, Кубак, Лігу чэмпіёнаў, суперкубкі Іспаніі, Еўропы, клубны чэмпіянат свету па футболе.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Перад зыходам на канікулы дэпутаты парламента прагаласавалі ў першым чытанні за адмену адтэрміноўкі ад прызыву ў армію для студэнтаў-завочнікаў ВНУ і тэхнікумаў.

***Брэст.*** Два бліжэйшыя райцэнтры Жабінка і Маларыта стануць гарадамі-спутнікамі абласнога цэнтра, дзе ёсць болей свабодных месцаў для жыллёвага будаўніцтва.

***Мінск.*** У першым паўгоддзі толькі ў сталіцы Камітэт дзяржкантролю на сваім сайце вызначыў і назваў 5371 суб'ект гаспадарання, дзе пройдуць планавыя праверкі.

***Гомель.*** Найбольш па краіне за суткі па вобласці выпала снегу, у асобных раёнах да 17 мм, што склала 44 % да месячнай нормы, вельмі шмат ападкаў выпала і на Магілёўшчыне.

***Мінск.*** Мы адкрыты для дыялогу, заявіў Часовы Паверанa ў справах ЗША ў Беларусі Майкл Скэнлан, але не бачым пакуль дэмакратызацыі жыцця, не адменім таму санкцыі.

***Клімавічы.*** Пажар пад раніцу пры моцным ветры поўнасцю знішчыў у вёсцы Хацень свінаферму з 63 свінаматкамі і 3 трактары, 2 аўтамабілі, урон склаў сотні млн. рублёў.

***Мінск.*** Гіганцкія прыпіскі на суму 10,6 млрд. руб. выявіла праверка Дзяржкантролю на заводзе "Электроніка" НВА "Інтэграл", ён 5 гадоў фактычна "праядаў" бюджэтныя сродкі.

***Лагойск.*** На перыяд навагодніх свят і Каляд усе месцы ў гасцініцах гарналыжнага цэнтра "Сілічы" раскупілі замежныя турысты, тут у пракаце 850 горных лыж, 170 для сноуборда.

***Мінск.*** У сталіцы з 22.00 да 9.00 гадзін на ўсіх аб'ектах гандлю, за выключэннем устаноў грамадскага харчавання, дэпутаты гарсавета забаранілі продаж гарэлкі, віна і піва.

***Чэрвень.*** З надыходам халадоў Смілавіцкая валюшная фабрыка пачала працаваць у тры змены каб задаволіць шалёны попыт на валёнкі, штодзень адгружалі іх па 50 машын.

***Ганцавічы.*** Мінеральная вада "Царыца" прыватнай фірмы "ВаМіЦа" перамагла на рэспубліканскім конкурсе "Лепшая прадукцыя года-2009", апярэдзіўшы нават "Дарыду".

***Навагрудак.*** Канцэрн "Беллегпрам" уключыў швейную фабрыку ў лік 5 прадпрыемстваў на акцыяніраванне і магчыму прыватызацыю сур'ёзнымі інвестарамі ў 2010 годзе.

***Мінск.*** Міністр культуры Польшчы Богдан Здраеўскі пацвердзіў супрацоўніцтва з Беларуссю ў Год Шапэна і сумеснае святкаванне 600-годдзя Грундвальдскай бітвы.

***Барысаў.*** Старшыня праўлення ФК "БАТЭ" Анатоль Капскі паабяцаў, што неўзабаве клуб будзе мець у горадзе свой стадыён на 12-15 тыс. месцаў еўрапейскага ўзроўню.

***Мінск.*** Пасля адсутнасці на працягу 7 гадоў у сталіцы зноў адкрыліся спецыялізаваныя магазіны сексшопы, на тавары ўведзены жорсткая сертыфікацыя, гігіенічны кантроль.

***Воранава.*** Раён стаў адным з самых дэпрэсіўных на Гродзеншчыне, летась прамысловая вытворчасць і таваразварот зменшыліся ніжэй 70 % і ліквідавалі 3 малыя прадпрыемствы.

***Мінск.*** Для рэкламы айчыннай кандытарскай фабрыкі "Спартак" знялiся аголенымі ў фотасесіі ўсе ігракі жаночай зборнай Беларусі па баскетболе, лепшай каманды краіны.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Асноўныя прагнозныя паказчыкі 2009 года, як адзначалася на сесіі аблсавета дэпутатаў, Віцебская вобласць не выканала, у бюджэт не паступіла 125 млрд. рублёў.

***Орша.*** Найбольшыя на Віцебшчыне складскія запасы ў памеры 65 млрд рублёў так і не ўдалося за год разгрузіць на льнокамбінаце, які не разлічваецца з пастаўшчыкамі лёну.

***Новалукомль.*** Да 40-годдзя Лукомльскай ГРЭС, самай эканамічнай у Беларусі, завяршылі першую чаргу мадэрнізацыі прадпрыемства, якая дазволіць павялічыць яе магутнасці.

***Віцебск.*** Падчас рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі ў абласной бальніцы прайшлі адразу 3 паказальныя апераціі на адкрытым сэрцы, усяго іх праведзена ўжо 130.

***Верхнядзвінск.*** Упершыню ў гісторыі раёна ў розных сацыяльна-эканамічных сферах жыцця назвалі вызначыўшыхся лепшых людзей краю ў намінацыях "Чалавек года-2009".

***Лепель.*** Малочнакансервавы камбінат заключыў кантракт на пастаўку ў В'етнам 2 тыс. тон сухога малака, сёлета ў Венесуэлу адгрузяць яго 4,5 тыс. тон, у 3 разы болей леташняга.

***Сянно.*** Са шматлікімі недаробкамі яшчэ ў лістападзе здалі шматпавярхоўку ў райцэнтры, аднак у палове кватэр ужо зламаліся ўваходныя замкі, людзі не могуць сюды засяліцца.

***Полацк.*** У горадзе сёлета пачнецца будаўніцтва з дзяржбюджэту раддзільнага дома і хірургічнага аддзялення, пешаходнага маста праз Дзвіну і Палаца гульнявых відаў спорту.

***Віцебск.*** Да 75 тыс. пар элітнага абутку намецілa штогод прадаваць на ўнутраным рынку фабрыка "Марко" на сваім новым СП сумесна з італьянскай кампаніяй "Балдзініні С.р.л."

***Дубровна.*** Абурэнне вяскоўцаў выклікалі намеры ўлад закрыць адзіную ў раёне Клёнаўскую ўчастковую бальніцу і адкрыць замест яе амбулаторыю на платнай аснове.

***Шуміліна.*** Больш 100 гараджан падпісалі адмовы аб удзеле ў долевым узвядзенні жылля ў райцэнтры, па гэтай прычыне "падвіс" і будучы шматкватэрны дом у гарпасёлку Обаль.

***Расоны.*** Серыя навагодніх і калядных прадстаўленняў упершыню прайшла на сядзібе Дзеда Мароза "Лукамор'е" на беразе лясного возера ў домемузеі вёсцы Межна.

***Орша.*** За двайное забойства на падпітку ў лесапарку горада пары на прагулцы да 25 гадоў турмы быў прыгавораны малады аршанец, раней судзімы за крадзяжы.

***Браслаў.*** Паблізу райцэнтра прайшла заключная гонка "Азёрны край", якая вызначыла чэмпіёна Беларусі па аўтаралі з удзелам гоншчыкаў на 29 аўтамабілях.

***Лёзна.*** На тэрыторыі раёна засталося ўсяго адно прадпрыемства льнозавод з 80 работнікамі, мясцовы бюджэт стаў датацыйным ужо на 68 %, чарга на жыллё 603 сям'і.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**21,5** *млн. тон* столькі нафты, па дадзеных экспертаў, разлічвала атрымаць Беларусь у 2010 годзе з Расіі ў адпаведнасці з падрыхтаваным праектам міжурадавага пагаднення аб супрацоўніцтве ў нафтавай сферы. Аднак гэты дакумент летась не быў падпісаны, бо беларускі бок запатрабаваў ад РФ адмяніць сёлета пошліну на пастаўкі расійскага "чорнага золата". У выніку з 1 студзеня расійскі бок прыпыніў на некаторы час пастаўкі нафты на айчынныя НПЗ і саюзнікі міжволі распачалі, як зімой 2007 года, чарговую "нафтавую вайну".

Сапраўды, як сцвярджае расійская прымаўка: "дружба дружбой, а табачок врозь". Добра яшчэ, што напрыканцы мінулага года ўдалося дамовіцца з "Газпрамам" аб пастаўках газа. У астатнім, нягледзячы на падпісанне дамоўленасцей аб Мытным саюзе трох краін, адносіны суседзяў становяцца ўсё больш прагматычнымі. У дадзены момант Крэмль гатовы забяспечыць беларусаў беспошлiннымі пастаўкамі толькі аб'ём спажывання нафты для ўнутраных патрэб. Па разліках расіян, нам хопіць такіх 6 млн. тон, бо яшчэ паўтары мільёны Беларусь сама штогод здабывае.

Беларусы на перамовах дабіваліся штогадовых паставак нафты без пошлін ў аб'ёме 9 млн. тон. Аднак нічога з такіх намераў не атрымалася. Наша краіна вельмі не жадала купляць дзесьці 15 млн. тон нафты па біржавых цэнах у канцы года каля 77,8 USD за баррэль. У мінулым, з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя, уся тады вельмі танная руская нафта ў накірунку Беларусі паступала без пошлінаў і фактычна была галоўным донарам-спонсарам айчыннага бюджэта.

Расійскі бюджэт нёс істотныя страты, аднак актыўна ў крамлёўскіх палатах на перыяд праўлення Б. Ельцына разыгрывалася карта саюзнай інтэграцыі, бо была іншая палітычная кан'юнктура. Расійскія перапрацоўшчыкі станавіліся меней канкурэнтназдольнымі, а беларусы за кошт нафты і нафтапрадуктаў на экспарт спраўна зараблялі немалыя нафтадолары для сябе і толькі абяцалі да самага апошняга часу доступ да сваіх энергетычных актываў, уключаючы продаж расійскім кампаніям важнейшага комплекса ТЭК "Нафтан-Палімір".

З такой нагоды расійскі пасол у Мінску А. Сурыкаў на гэты конт не стрымаўся і заўважыў, што з канца 90-х гадоў ужо язык баліць ад мазолей пасля пустазвонных размоў. Напрыканцы мінулага года сітуацыя яшчэ больш абвастрылася. Расія цвёрда вырашыла не губляць болей ніводнага рубля нафтавых дывідэнтаў, узгадала, што з 1997-га па 2001 год наогул не мела даходаў ад экспарту сваёй нафты. Раней саюзнікі падпісалі пагадненне на 3 гады аб механізме раздзелу прыбытку ад нафты.

Не сакрэт, і летась нафтапрадуктамі Беларусь гандлявала актыўна і толькі за 10 месяцаў года прадала іх за мяжу 12,7 млн. тон, у асноўным на Захад (98,4 %). Але яшчэ ў 2007 годзе нам прыйшлося дзяліцца з РФ даходамі, бо першапачатковая пошліна на пастаўкі нафты ў нашу краіну склала 29,3 %, а летась была ўжо 35,6 %. Расіяне болей не жадаюць нават у прапорцыі 15:85 на сваю карысць весці міжбюджэтнае размеркаванне прыбыткаў. Яны адкрыта гавораць, што ўнутраны рынак забяспечым, а за астатнія аб'ёмы цяпер плаціце 100% экспартную пошліну.

У адказ беларускі бок прыгразіў у 10 разоў падняць плату за транзіт нафты еўрапейскім спажыўцам, хоць у пачатку 2010 года яе пастаўкі з РФ у Германію і Польшчу ішлі ў поўным аб'ёме. Хоць і шмат разоў беларускі лідэр сустракаўся летась са сваім расійскім калегам, прэзідэнты даручалі бакам дамовіцца аб новых умовах паставак нафты да канца года. Аднак гэтага не атрымалася і сітуацыя заставалася заблытанай і незразумелай. Масква не жадае рызыкаваць, губляць свае прыбыткі, а беларускі бюджэт, калі не знойдуць перамоўшчыкі выхад з тупіка, панясе адчувальныя страты.

Пакуль кампрамісу ў пазіцыях абодвух бакоў не назіралася і ўзніклі праблемы з пастаўкамі стратэгічнай сыравіны. Верагодна спатрэбіцца колькі часу, каб беларусы з рускімі адпрацавалі кампрамісныя механізмы і схемы. Зразумела, імпартныя энерганосьбіты будуць крыху таннейшыя, калі станем больш лагоднымі пры прыватызацыі сваіх НПЗ, на якія паклалі вока расійскія акулы бізнеса.

# Выдавалася газета «Дэр глубокер лебн» («Жыццё Глыбокага»)...

У 1921 годзе Глыбокае апынулася ў адроджанай Рэчы Паспалітай, дзе ўказам Пілсудскага яўрэям надалі ўсе грамадзянскія правы. І хоць інтэнсіўна засяляўшыя гэтыя землі ветэраны барацьбы за незалежнасць Польшчы («асаднікі»), ставіліся да яўрэяў без усякай сімпатыі, яўрэйскае жыццё ў гарадах, якія яшчэ нядаўна ўваходзіўшыя ў расійскую рысу аселасці, стала наладжвацца. Росквіт нацыянальнай культуры і дзелавой актыўнасці 3.5 мільённага яўрэйскага насельніцтва Польшчы закрануў і яўрэйскую абшчыну Глыбокага. Да пачатку 1930-ых гадоў у горадзе функцыянавала пяць сінагог, столькі ж бэт-мідрашаў (семінарыяў або дамоў тлумачэння Вучэння). Навучанне дзяцей і моладзі здзяйснялі больш, чым дзесяць хедэраў, дзве яўрэйскія школы (адна на ідышы, іншая на іўрыце), яўрэйскі гандлёвы тэхнікум «Хандлюўка» (на ідышы), іешыва, польская школа для яўрэйскіх дзяцей з выходным днём па-суботах («Шабасуўка») і дзве польскія школы і гімназія, якія ажыццяўлялі сумеснае навучанне дзяцей розных нацыянальнасцяў і рэлігій. Выдавалася газета «Дэр глубокер лебн» («Жыццё Глыбокага»), актыўна працавала багатая бібліятэка, у якой, акрамя твораў яўрэйскіх пісьменнікаў, можна было знайсці перакладзеныя на ідыш кнігі класікаў сусветнай літаратуры – французскай, нямецкай, англійскай, польскай, рускай. Запомніліся «Адхіленыя» У. Гюго, кнігі М. Рыда, Ч. Дзікенса, Ж. Верна, М. Твена, Л. Талстога. Дзейнічалі сіяністская арганізацыя, «Бунд», юнацкія сіяністскія атрады «Бейтар» і «Шомер». Вялізнай папулярнасцю карысталіся драматычныя гурткі, хор, аркестр і футбольная каманда «Макабі». У горадзе працавалі яўрэйскі банк, каса ўзаемадапамогі, якая выдавала тым, хто жыў у нястачы безатсоткавыя пазыкі, лякарня, паліклініка, два кінатэатры – у іх, акрамя польскіх стужак, дэманстраваліся знятыя ў Амерыцы яўрэйскія фільмы на ідышы. Усё больш прыкметным становіцца рост нараджальнасці – у 1929 годзе дзеці складалі ўжо 32,5% ад усёй яўрэйскай абшчыны.

> **Напрыканцы 1930-х гг. Глыбокае становіцца развітым гандлёвым цэнтрам, які усё больш набываў рысы еўрапейскага горада – «маленькім Данцыгам», як яго назвалі браты Раяк.**

Аднак найболей пераканаўчым паказчыкам, які сведчыць аб з'яўленні ў Глыбокім спрыяльных для яўрэяў умоў жыцця, варта лічыць павелічэнне ўсяго яўрэйскага насельніцтва горада. У сваёй кнізе аб глыбоцкім гета браты Міхл і Гірш Раяк адзначаюць, што да пачатку Другой сусветнай вайны насельніцтва Глыбокага дасягнула 11 тысяч чалавек, палову якіх – 5.5 тысяч – складалі яўрэі. Супаставіўшы гэты лік з лікам яўрэяў Глыбокага за 1929 год – 3.6 тысяч – лёгка ўсталяваць, што за прадваеннае дзесяцігоддзе яўрэйская абшчына вырасла на 1.9 тысяч чалавек або амаль на 53%. Напрыканцы 1930-х гг. Глыбокае становіцца развітым гандлёвым цэнтрам, які усё больш набываў рысы еўрапейскага горада – «маленькім Данцыгам», як яго назвалі браты Раяк. Усё часцей горад наведваюць іншагароднія дзелавыя людзі і адмыслоўцы – у «Хандлюўцы», напрыклад, лекцыі чытаў навуковец са Львова. Усяму гэтаму не ў малой ступені спрыяла праца банка і касы ўзаемадапамогі, дзелавая хватка і энергія такіх людзей, як Гершон Ледэрман, Майсей Шульгейфер, Залман Рубашкін і іншыя, высока развітая дабрачыннасць і наладжанае праз Круляўшчызну чыгуначных зносінаў са знешнім светам – там, у чатырнаццаці кіламетрах ад Глыбокага, можна было перасесці на адзін з 3-4 цягнікоў, якія сноўдалі па лініі Вільня - Круляўшчызна - Полацк.

Пасля смерці Пілсудскага ў 1935 годзе ўлада ў Рэчы Паспалітай апынулася ў руках па-пранацысцку



Уладзімір Едзідовіч за рабочым сталом галоўнага рэдактара газеты «Форвертс» на рускай мове.

настроеных вайскоўцаў і становішча ў краіне стала змяняцца. Паступова аднаўляўся пераслед яўрэяў – першыя антысеміцкія акцыі складаліся ў абкладанні падаткам кашэрнага ўбоя быдла і скарачэнні прыёму яўрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Прыкметна пагоршылася дачыненне да яўрэяў і ў глыбоцкай гімназіі – сярод прафесараў было некалькіх чальцоў нацысцкай партыі. Сталі цурацца яўрэяў і польскія савучні. У 1938 годзе былі адзначаныя выпадкі нападу на яўрэйскіх школьнікаў фашыствуючых малойчыкаў. У хаты яўрэяў стала вяртацца стагоддзямі знаёмае чаканне бяды. Трывогу ўзмацнілі паўтаральныя ў розных канцах гарада вялікія пажары. Як пасля высветлілася, падпаламі ў мэтах стварэння панікі займаўся нехта Вітвіцкі, гітлераўскі шныпар, які прыжыўся ў горадзе, пад выглядам работніка, які адстаў ад гастраляваўшага тут цырка. Між тым , Гітлер ужо акупаваў Аўстрыю і, абапіраючыся на дамову «Молатава –- Рыбентропа», 1 верасня 1939 года напаў на Польшчу. Паводле той жа дамовы 17 верасня ў Глыбокае ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі.

Насельніцтва горада сустрэла новую ўладу па-рознаму. Камуністы, вызваленыя з польскіх турмаў, – з непрыхаванай радасцю, не здагадваючыся, што іх чакае хуткая загуба ў катавальнях НКУС. Бачачы ў Чырвонай Арміі абарону ад нацысцкага зняволення, яе прывітала і свецкая яўрэйская інтэлігенцыя, наіўна мяркуючы, што бальшавікі пазбавяць яўрэяў ад шматвяковых бед. Стрымана паставіліся да прыходу Чырвонай Арміі купецтва, уладальнікі крам, гасцініц, кінатэатраў, мясцовых вытворчасцяў. Насцярожана сустрэлі бязбожную ўладу служыцелі рэлігій. Аднак, нягледзячы на адценні адносінаў да новай улады розных сацыяльных груп, у цэлым яўрэі былі гатовыя з ёй супрацоўнічаць. У супрацьлегласць яўрэям, палякі сустрэлі рускіх варожа – яны бачылі ў іх удзельнікаў чарговага падзелу бацькаўшчыны.

**Крыніца:** Уладзімір Едзідовіч і Гессель Гольдман, «Глыбокае».

# Учора ёсць

■ **Уладзімір Скрабатун**

Сёння ёсць толькі тое, што ёсць. Шкада, але гісторыя не ўспрымае ўмоўнага ладу... Што было б, каб было інакш?

Вось і на гэты раз, калі патрапіў на вочы старадаўні здымак Докшыцкай (цяпер Маскоўскай) вуліцы, ізноў падумалася так. У цэнтры (левы здымак) – сінагога. Дазвол на яе пабудову ёсць у ашмянскіх актах 1742 года. Міхаіл Зяновіч пісаў, што з «Божай ласкі» віленскі біскуп «пасля знішчэння сінагогі пажарам згадзіўся і рашыў на просьбу яўрэяў даць згоду на пабудову новай... Гэтым пісьмом дазволена яўрэям глыбоцкім у асобным месцы і ў далечыні ад касцёла, на месцы былой, адну сінагогу пабудаваць. Але яна не павінна быць падобнай на касцёл, гэта значыць, павінна быць без вежаў, з невысокім дахам і не ўзвышацца, каб ні з якога боку не здавалася падобнай на касцёл. Было дазволена хаваць памерлых у звычайным месцы за горадам».

Праз сорак гадоў, у 1782 годзе, у інвентары парафіяльнага касцёла адзначана, што яўрэі маюць школу з дазволу біскупа Зянковіча.

А вось будынак – справа ад сінагогі! Няўжо гэта слынная глыбоцкая іешыва – навучальная ўстанова? Хутчэй – так! На ёй сёння вісела б з дзесятак мемарыяльных шыльдаў. Адна з якіх прысвечаная Эліэзэру Бэн-Іегудзе, чалавеку, які адрадзіў іўрыт – гутарковую мову яўрэяў.

Каб вайна не знішчыла гэтыя два будынкі, то сёння наплыў турыстаў з усяго свету нам быў бы забяспечаны. І інвестыцыі ў горад ад удзячных яўрэяў – таксама.

Вельмі шкада гэтых двух будынкаў... Тое – відарысы Глыбокага, якога некалі называлі «маленькім Данцыгам»*

Зрэшты, маглі б яўрэі з усяго свету «прайсціся з шапкай» ды сабраць грашовыя адшкадаванні на аднаўленне згаданых двух будынкаў. Аднавілі ж ужо шмат дзе па свеце не адзін гістарычны будынак.

Аднавіць гэтыя будынкі беларусам? Глыбачанам? Па праўдзе кажучы – слабая матывацыя! Хаця, чаму і не? Але лепш «спіхнуць» гэтую ідэю ізраільскай амбасадзе ў Мінску.

Аднак, з таго «маленькага Данцыга», усё ж, застаўся адзін будынак. Дажыў да нашых дзён! На старадаўнім здымку ён – у крайнім левым куце. Сёння гэта будынак на вуліцы Маскоўскай, 3. На ім, нават, вісіць ахоўная шыльда з паведамленнем, што гэты будынак уяўляе «гісторыка-культурную каштоўнасць». Псаваць яго нельга. «Караецца па Закону» – напісана.

Не ведаю, як у каго, але ў аўтара гэтых радкоў яго

* **Данцыг** – нямецкая назва цяперашняга польскага горада Гданьск.



Учора.



Сёння.

# У 2010 годзе турыстычная галіна Беларусі будзе выкарыстоўваць магчымасці радавых сядзіб, СВК і водных рэсурсаў

**У 2010 годзе турыстычная галіна Беларусі будзе выкарыстоўваць магчымасці радавых сядзіб, сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў (СВК) і водных рэсурсаў.**

Як паведаміў БелаПАН намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга, калі ў 2009 годзе ў краіне працавалі над павелічэннем колькасці вясковых сядзіб, то ў 2010 годзе плануецца максімальна прыцягваць турыстаў у «сядзібы, звязаныя з імёнамі, якія адыгралі значную ролю ў гісторыі нашай дзяржавы». Зараз такіх сядзіб прыкладна тысяча, і яны знаходзяцца ў розным стане. Паводле слоў Шульгі, падрыхтаваны змены ва ўказ Прэзідэнта, якія будуць рэгламентаваць работы ў радавых маёнтках. Частку гэтых сядзіб плануецца прадаваць за адну базавую велічыню, частку на конкурснай аснове, каб уласнік мог максімальна аднавіць маёнтак і прыцягнуць турыстаў.

**У 2010 годзе плануецца максімальна прыцягваць турыстаў у «сядзібы, звязаныя з імёнамі, якія адыгралі значную ролю ў гісторыі нашай дзяржавы».**

У развіцці аграрнага турызму ў 2010 годзе плануецца максімальна задзейнічаць магчымасці былых калгасаў СВК, зазначыў намеснік міністра. На базе СВК плануецца ствараць турыстычныя прадпрыемствы, якія будуць не толькі дэталёва паказваць працэс сельскагаспадарчых работ, але і праводзіць адукацыйныя курсы для наведнікаў, напрыклад, па прыгатаванні саленняў і варэнняў. Зараз турыстычныя прадпрыемствы створаны на базе толькі чатырох СВК. У 2010 годзе гэты паказчык плануецца павялічыць не менш як у два-тры разы.

Як паведаміў Шульга, плануецца павысіць эфектыўнасць выкарыстання водных рэсурсаў. Для гэтага ў кожнай вобласці павінна быць хаця б па адным сучасным цеплаходзе, які будзе перавозіць турыстаў па рэках з Брэста ў Гомель, з Віцебска ў Магілёў і Полацк.

Паводле інфармацыі выканаўчага дырэктара Рэспубліканскага саюза турыстычных арганізацый Валянціна Цэхмейстэра, турфірмы спадзяюцца на прыняцце ў красавіку ў другім чытанні праекта аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон «Аб турызме».



Партал сядзібнага дома Куроўскіх у Гатаўшчыне.
*Рэканструкцыя Ул. Скрабатуна*

Істотна змяняецца паняцце турыстычнай дзейнасці: разам з арганізацыяй тураў у яе ўключаны паслугі па перавозцы і пражыванні турыстаў, а таксама іншыя спадарожныя паслугі. Гэта дазволіць павялічыць аб'ём турпаслуг: цяпер яны існуюць на практыцы, але не адлюстраваны афіцыйна.

Як мяркуе спецыяліст, беларусы ў 2010 годзе, як і раней, будуць звяртацца па паслугі турарганізацый пераважна для таго, каб выехаць за мяжу. У санаторыях Беларусі «засілле» расіян, кошт лячэння ў іх супастаўны з пуцёўкамі ў Турцыю і Балгарыю, а надвор'е ў краіне іншым разам падводзіць.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*



**Руіны радавой сядзібы Куроўскіх у Гатаўшчыне.** *Фота Я. Самсонава.*



**Радавая сядзіба Куроўскіх у Гатаўшчыне.**
*Рэканструкцыя Ул. Скрабатуна*

# заўтра?

выгляд выклікае скрушнае ўражанне. Усё ж – помнік архітэктуры!

Казаў не аднойчы нашаму начальству: «Трэба адрэстаўраваць будынак. Турысты, як ніяк, прыязджаюць. Сорамна за горад!».

Па ўсёй логіцы, гэта павінны зрабіць уласнікі будынка. Жыхары! А ім гэта трэба? Не! Як жылі, так і будуць жыць далей...

Правільней у гэтым выпадку было б жыхароў адтуль выселіць. Натуральна, узамен, прадставіўшы ім кватэры з лепшымі ўмовамі для пражывання. Будынак перадаць (альбо прадаць) турагенству, пад банкаўскі філіял, пад музейныя экспазіцыі, а то і пад адзін з аддзелаў райвыканкама...

У аўтара, не сумнявайцеся, хапіла б здольнасцяў намаляваць усю «разгортку» па лініі фасадаў ад цяперашняга дома па Маскоўскай, 3 і да страчанай іешывы. І Вы, сапраўды, ўбачылі б сілуэт сапраўднага «маленькага Данцыга». І хвалёныя сёння Паставы – мы, дакладна, «заторкнулі б за пас». Але на тое зараз няма попыту, бо ніхто не збіраецца адбудоўваць ні сінагогу, ні іешыву, ні яшчэ адзін 2-павярховы будынак, які зацясаўся на старым здымку паміж сённяшнім домам №3 і колішняй сінагогай. Аднак, рэканструкцыю будынка па Маскоўскай, 3 аўтар прапаноўвае ўвазе чытачоў, хаця б з той нагоды, што будынак гэты, усё ж, захаваўся. Ён – помнік архітэктуры.

Параўнаць дзве ілюстрацыі будзе падобным на тое, як сказаць: «Выберы для сябе лепшае!».

Аднак, каб выбіраць лепшае, павінен быць заказ грамадства. Можна шмат спрачацца на конт таго, трэба ці не трэба ахоўваць помнікі гісторыі і культуры, развіваць турызм, зберагаць чысціню вадаёмаў... І ўсё будзе нязменным. Няма заказа грамадства. Гэта, нібыта, падобна на тое, як авечка будзе спрачацца з ваўком аб карысці вегетарыянства.

У нашай спрэчцы выбар такі: альбо помнік архітэктуры, альбо супермаркет на гэтым месцы. Грамадская думка схіляецца сёння на карысць супермаркета. Таму на Цэнтральным пляцы стаіць не Палац культуры, а Гандлёвы цэнтр.

Завяршаючы дадзеную тэму, хацелася б згадаць яшчэ адзін будынак XIX стагоддзя на вуліцы Маскоўскай, які захаваўся воддаль ад дома №3. Гэта – будынак Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Яго відарыс можна ўбачыць на паштоўках канца XIX-пач.XX стст. Ён шмат у чым ідэнтычны згаданаму намі дому №3. Таксама: на першым паверсе была крама, на другім – жылыя памяшканні і балкон над уваходам.

Гэты будынак мусіў быць уключаны ў Збор помнікаў гісторыі і культуры. Але, чамусьці, тыя, хто складаў гэты Збор, яго не заўважылі... Шкада. Мала цяпер аргументаў, каб у часе сённяшняй перабудовы і рэканструкцыі захаваць ягонае колішняе гістарычнае аблічча.




**Будынак на вул. Маскоўская, 3.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Будынак на вул. Маскоўская, 3.**
*Рэканструкцыя Ул. Скрабатуна.*



# Беразвеччу несказана пашанцавала!

■ **Уладзімір Скрабатун**

Беразвеччу несказана пашанцавала! Тут будзе пабудаваны Лядовы палац спорту на 770 месцаў. Праўда, калі гэтую грандыёзную задуму не задушыць фінансавы крызіс! А задушыць можа!

770 месцаў - гэта мала ці шмат? Мы адмыслова прагледзелі інфармацыю пра ўмяшчальнасць усіх плануемых для ўзвядзення лядовых палацаў на Беларусі. Скажам адразу: на гэтым фоне Глыбокае глядзіцца досыць крута! Давайце параўнаем:

**1.** КОБРЫН/ Лядовы палац спорту – 790 месцаў.
**2.** ЖЛОБІН/ Лядовы палац спорту – 1000.
**3.** МАЗЫР/ Лядовы палац спорту – 800.
**4.** РЭЧЫЦА/ Лядовы палац спорту – 500.
**5.**СВЕТЛАГОРСК/ Лядовы палац спорту – 500.
**6.** СЛОНІМ/ Лядовы палац спорту – 800.
**7.** ГОРКІ/ Лядовы палац спорту – 500.
**8.** ОРША/ Лядовы палац спорту – 3,500.
**9.** ГОМЕЛЬ/ Лядовы палац спорту – 500.
**10.** ВАЎКАВЫСК/ Лядовы палац спорту – 800.
**11.** БАРЫСАЎ/ Лядовы палац спорту – 3000.
**12.** КАСЦЮКОВІЧЫ/ Лядовы палац спорту – 280.
**13.** ШКЛОЎ/ Лядовы палац спорту – 280.
**14.** МІНСК/ Арэна-Чыжоўка – 8,000
**15.** ЛЕПЕЛЬ/ Лядовы палац спорту – 770.
**16.** КАЛІНКАВІЧЫ/ Лядовы палац спорту – 500.
**17.** МАЛАДЗЕЧНА/ Лядовы палац спорту – 2000.
**18.** КРЫЧАЎ/ Лядовы палац спорту – 500.
**19.** АСІПОВІЧЫ/ Лядовы палац спорту – 500.
**20.** НАВАПОЛАЦК/ Лядовы палац спорту – 3000.
**21.** ГЛЫБОКАЕ/ Лядовы палац спорту – 770.
**22.** РАГАЧОЎ/ Лядовы палац спорту – 300.
**23.** ДРАГІЧЫН/ Лядовы палац спорту – 230.
**24.** ЛУНІНЕЦ/ Лядовы палац спорту – 500.
**25.** НАВАЛУКОМЛЬ/ Лядовы палац спорту –770.
**26.** ГЛУСК/ Лядовы палац спорту – 280.
**27.** КЛІЧАЎ/ Лядовы палац спорту – 280.
**28.** ЧАВУСЫ/ Лядовы палац спорту – 280.

Ну, як!

У свой час аўтар завітаў у аддзел архітэктуры райвыканкама, каб паглядзець праект глыбоцкага Лядовага палаца спорту. Аднак, архітэктар сказаў: «Праекта у нас няма. Будаўніцтва палаца – кампетэнцыя Віцебска, а не Глыбокага».

Што такое Лядовы палац спорту ўмяшчальнасцю на 640 месцаў – глядзіце на прыкладзе Пінска. Будынак – досыць сімпатычны. У нашым краі: ні ў Докшыцах, ні ў Мёрах, ні ў Браславе, ні ў Паставах, тым больш у Шаркоўшчыне, а пра Глыбокае і казаць не будзем – паставіць побач няма чаго. Хіба што будынак сабора Нараджэння Багародзіцы ў Глыбокім, які так марыў Напалеон забраць з сабою ў Парыж і паставіць побач з Нотр Дамам!

Праўда, вышэйзгаданы Лядовы палац спорту – у Пінску, на 640 наведвальнікаў. У нас – 770. То параўноўваць трэба з Пружанамі. Там – на 800.

У такую залу можна запрашаць і Алу Пугачову на гастролі! Не кажучы аб годным месцы для правядзення «Магніфікату». Ну, а хакей, хакеем...

У Беразвечы ўжо пачалося будаўніцтва новага мікраранёна – воддаль ад паліклінікі і бліжэй да Абруба Беразвецкага. Тыя, хто патэнцыйна атрымае там кватэры, скардзяцца: «Усё файна! Паліклініка блізка. І садок дзіцячы пабудуюць! Але! Пра школу забыліся! Цягніся, хоць і на аўтобусе, праз увесь горад таму дзіцяці ў трэцюю школу...» Гэта ўжо ўпушчэнне мясцовых уладаў...

Цяпер уявім, што гадоў праз 10, няхай і больш, адбудуюць беразвецкую Петрапаўлаўскую царкву і манастыр, як архітэктурныя помнікі... То Беразвечча стане самадастатковым раёнам горада. І я б сказаў – самым лепшым і прыгажэйшым.

Беразвеччу несказана пашанцавала! Толькі фінансавы крызіс, абыякавасць ды нерашучасць чыноўнікаў у прасоўванні гэтага праекту, можа ўнесці сюды свае нечаканыя карэктывы...

*Крыніца: паводле сайта федэрацыі хакея Рэспублікі Беларусь.*

**ПІНСК/ Лядовы палац спорту. Год будаўніцтва: 2008 Умяшчальнасць: 640.**





**ПРУЖАНЫ/ Лядовы палац спорту. Год будаўніцтва: 2007. Умяшчальнасць: 800.**








## Газета "Вольнае Глыбокае" – грамадскі голас Глыбоччыны

**Этнаграфія, гісторыя нашага горада, раёна, краю; асобы, персоны, людзі з мінулага, пра якіх глыбачанам і прачытаць і ведаць трэба... Усё гэта газета "Вольнае Глыбокае".**

Мастацкія, культурныя падзеі, праблемы сягоняшняга дня – зноў жа газета "ВГ".

Удзячны галоўнаму рэдактару газеты Уладзіміру Скрабатуну за яго хобі і працу грамадскага маштабу.

*Сафрон Садоўскі*



*Малюнак Сафрона Садоўскага*

## Пётр Леанідавіч Шапавал

**Сардэчна віншуем з днём нараджэння і Ражджаством Хрыстовым! Шчыра жадаем здароўя, яркіх дзён, поўных дабрыні, шчасця, міру- і кахання!**

Сегодня День рожденья твой, –
А сколько стукнуло – неважно.
Так будь же вечно молодым,
Ведь жизнь дана нам лишь однажды!
Не будем мы о том тужить,
Что лет нам прибавляют дни рожденья,
Ведь главное – суметь и так прожить,
Чтоб места не было для сожаленья.
Желаем жизни полной, до краёв,
Чтоб не было в душе ненастья,
Короче говоря, без лишних слов, –
Большого человеческого счастья!



*Родныя.*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

18 – 26 студзеня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 18 студзеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.10** Nota Bene.
**09.40** Здоровье.
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Звери в доме».
**11.00** Комедийная мелодрама **«Не родись красивой»**
**12.10** Лирическая комедия **«Не торопи любовь»**
**14.10** Документально-биографический цикл «Моя правда» (Украина). Фильм «Михаил Евдокимов. Шутки в сторону».
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.25** Хроникально-документальный цикл "Невидимый фронт"
**15.55** Культурные люди.
**16.25** Мелодрама **«Сестры по крови»**
**17.20** Комедийная мелодрама **«Не родись красивой»**
**18.25** Видеофильм АТН «Елена Потупчик» цикла «Легко сказать».
**18.50, 00.50** «Зона Х». Криминальная хроника.
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу "Ответный ход".
**21.00** Панорама.
**21.50** Специальный репортаж АТН «Самбо в Салониках».
**22.05** **«Время счастья»**
**00.10** **«Части тела-5»**
**01.00** День спорта.



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** Теория невероятности. «Телепатия».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** ОНТ представляет: «Рекламная пауза».
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15** **«Любительница частного сыска Даша Васильева»**. Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Монтекристо»**. Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** **«Моя прекрасная няня»**.
**19.05** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00** Премьера. «Остаться в живых».
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.55** **«Женаты... с детьми»**.
**00.25** **«Без ума от тебя»**.
**00.50** Наши новости. **01.05** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.25** В этот день.
**09.30** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.30** **«Однажды в провинции»**
**12.25** «Пра мастацтва».
**12.50** Школа ремонта.
**13.50** Мультсериал **«Аладдин»** (США).
**14.15** Внеклассный час.
**14.30** Бухта капитанов.
**15.10** Телебарометр.
**15.25** Детективный сериал **«Комиссар Мегрэ»**
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.20** Простые упражнения с Ю.Афанасьевым
**17.50** Сериал **«Любовь как любовь»**
**18.55** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск) – Трактор (Челябинск). Прямая трансляция. В перерыве: Калыханка.
**21.20** Белорусское времечко.
**22.25** АЛЬБАРУТЕНИЯ. «Крестовые походы. Вторжение».
**22.55** Хоккей. Формула игры.
**23.25** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**00.20** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**00.45** Детективный сериал **«Комиссар Мегрэ»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель». Теленовелла.
**11.50** «Званый ужин».
**12.40** **«Бывшая»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». «Цвет Алоэ» против «Маланка Оркестра».
**15.05** «Дальние родственники».
**15.30** «Горячий лед».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Я - путешественник».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Бывшая»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: **«АЛИСА НАВСЕГДА»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичные подробности».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Громкое дело».



**17:00** Аб'ектыў
**17:10** Еўропа сёння
**17:40** «Арол: крымінальная сага», серыял: 1 серыя
**18:40** Госць «Белсату»
**19:00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў)
**19:20** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:25** **«Аблавушак»**, мультсерыял
**19:35** МакраФон: Канцэрт дуэту «Гурзуф»
**20:05** «ПНР дэ люкс» дак. фільм, рэж. Эдыта Врублеўска (Edyta Wryblewska), 2007 г., Польшча
**20:25** Невядомая Беларусь: «Берасцейская крэпасць – дзве абароны»,дак.фільм,
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Фільматэка майстроў: **«Чалавек, якога там не было»**
**23:15** Аб'ектыў

